Przesyłka opłacona ryczałtem

Nr 4 — Пятніца, 26-га Лютага 1926 г. м. Вільня — Год I

# БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

Выходзіць раз у тыдзень — Цана нумару 20 грош.

**Нацыянальнае адраджэньне.—Тэрыторыяльная і культурна-нацыянальная аутаномія.—Зямля сялянам на падставе уласнасьці. — Шырокі дэмократызм. — Барацьба з комунізмам. — Нацыянальная царква. — Краёвая згода. — Далучэньне Усходняй Беларусі да Заходняй.**

Падпісная цана на 1 месяц 1 зл.
" " 3 " 2 зл. 50 гр.
Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno; ul. Niemiecka 1 Hotel „Sokołowski“ pokój Nr 23. Рэдакцыя адчынена ад 12 — 2 гадз. штодня апрача сьвятаў.

Цана абвестак: перад тэкстам—20 гр сярод тэксту — 25 гр. і на апошняй стр.—15 гр. за радок.

## ЦЭНТРАВІКІ і „КРЭСОУЦЫ“.

Вакол польскага зьезду ў Горадні паднялася цэлая бура ў польскай прэсе розных кірункаў. Нам беларусам надта важна разабрацца ў гэтых водгуках на зьезд польскай прэсы і зрабіць з гэтага свае канкрэтныя вывады. Перад усім гэта дасьць нам магчымасьць разабрацца у тым, якія польскія групы падзяляюць нашую ідэю — польска-беларускай згоды, а якія хочуць быць і далей нашымі няпрошанымі апякунамі „культуртрэгерамі“. Гаворачы коратка: будзем ведаць хто хоча быць *прыяцелем* беларускага народу, а хто на гвалт хоча застацца яго *„панам“*.

Што прэса эндэцкіх групіровак вельмі вoража спаткала шчыра-дэмократычныя прапазыцыі польскай „крэсовай“ дэмократыі на зьездзе — гэта ня дзіва. Дзякуем яшчэ раз ім за шчырасьць, бо мы ўжо ня ў першы раз чуем з боку эндэцыі, што нават самага беларускага народу няма, а ёсьць нейкія—„тутэйшыя“. Да ўсяго гэтага мы ўжо даўно прызвычаіліся. Белай варонай сярод правых групаў была і ёсьць віленская газэта „Słowo“.

Трэба зазначыць, што гэтая газэта ня гледзячы на сваю адкрыта монархічную праграму, у пытаньнях крэсовых займае пазыцыю зусім асобную і часта-густа многа больш дэмократычную, чым некаторыя *патэнтаваныя дэмократычныя* групы.

Гэтак, група „Пяста“ яшчэ нядаўна рабіла спробы пачаць шырокую акцыю на крэсах. Праўда, першыя спробы былі надта няўдалыя, бо, напрыклад, на Наваградчыне былі да пушчаны розныя цёмныя асобы, якія папсавалі пачатую „Пястам“ працу. А яшчэ больш пашкодзіла „Пясту“ актыўнае і бязумоўнае папіраньне ім акцыі *новага цывільнага асадніцтва*.

Церпячы, volens nolens, асадніцтва вайсковае, як спадак вайны, *беларускае сялянства, якое само душыцца безязямлі*—ня можа згадзіцца на новыя „асады“, *на новую калёнізацыю сваіх земляў у спакойных*, пакаёвых часах. На жаль прадстаўнікі гэтай партыі на зьездзе ў Горадні выказалі, што і пасьля няўдачы у Наваградчыне, яны і далей не разумеюць як фактычных патрэбаў Крэсаў, так і настрояў крэсавага грамадзянства.

Гэткія—жа самыя нэгатыўныя адносіны да спробы ўтварэньня агульна-крэсовага аб'еднаньня яскрава выявіла „Echo Warszawskie“—поўафіпыёз „Пяста“.

Другая патэнтавана-дэмократычная партыя—партыя польскіх соцыялістаў, у сваім органе „Robotnik“ гэтак сама выступае проці зьезду ў Горадні. Пры гэтым „пэпэсы“ зусім ня пробуюць выступаць проці зьезду з боку ідэалёгічнага,—бо што могуць сказаць проці *ідэі братэрства* польска-беларускага соцыялісты—а толькі робяць нападкі пэрсональныя, даючы назвы „недабіткі“, „палітычныя банкроты“ і т. д. па адрэсе галоўным чынам, віленскіх дэмократаў. Аднакжа калі прыпомніць, што *польскія* соцыялісты пры сваіх спробах здабыцьця прадвыбарных тэрэнаў на Палесьсі ў той жа Наваградчыне, ужываюць *расейскую* мову для сваей *польскай* газэты і для сваіх *польскіх* брашурак, якія яны разпаўсюджваюць сярод *беларускага* сялянства, дык дзівіцца іхняй апазыцыі проці ідэі горадзенскага зьезду ня прыдзецца.

Нам здаецца, што была-бы зусім, правідлова акрэсьліць тую барацьбу якая паднялася каля горадзенскага зьезду—*барацьбой* паміж групамі польскімі—цэнтравымі і крэсовымі *за патэнты на апеку над крэсамі*. З аднаго боку цэнтровыя групы, якія нічога супольнага з „крэсамі“ ня маюць, „крэсаў“ не любяць (Рыскі трактат!) і не разумеюць, а праз усе годы сваіх „экспэрымэнтаў“ над „Крэсамі“ нарабілі столькі бальшавікоў, сколькі не магла зрабіць уся спрытная агітацыя, 3-га інтэрнацыяналу. З другога боку—групы „крэсовыя“, на „Крэсах“ вырасшыя, з зямлёю і насяленьнем Крэсаў фізычна зьвязаныя і нарэшце, як паказаў прыклад зьезду ў Горадні, пачаўшыя разумець неабходныя патрэбы гэтых „Крэсаў“.

Дык прэтэнзыі цэнтравых групаў на далейшы „патэнт“ кіраваньня нашымі „Крэсамі“ з Варшавы, Кракава ці Пазнані, зусім неабаснаваныя і дзіўныя, асабліва пасьля ўсяго таго, што робіцца на „Крэсах“. Безумоўна, павінна быць агульная гармонія ў упраўленьні ўсімі „дзяльніцамі“ Дзяржавы, але пад напорам неабходных варункаў і *мейсцовых асаблівасьцяў „Крэсаў“*, да працы гаспадарча-эканамічнай і палітычна-грамадзкай павінна быць пацягнута перадусім грамадзянства мейсцовае, як польскае так і беларускае.

Толькі супольныя высілкі мейсцовага, дзяржаўна мысьлячага, грамадзянства знойдуць справядлівы modus vivendi для ўсіх грамадзян „Крэсаў“.

Толькі гэткім спосабам, *які ёсьць адзіны*, будзе наладжана нармальнае жыцьцё на Крэсах, толькі тады прападзе заўсёдная нябясьпека для Дзяржавы ўтраты Крэсаў.

## Палітычны агляд.

Заява Нямеччыны аб уваходзе ў Лігу Народаў выклікала цэлую буру ў эўрапэйскай прэсе. Справа ў тым, што таксама як і Нямеччына хочуць увайсьці ў Раду Лігі і іншыя дзяржавы, як Польшча, Гішпанія і Бразілія. З прычыны гэтага ўсе дзяржавы падзяліліся на два лагеры: адзін падтрымоўвае толькі кандыдатуру Нямеччыны, другі — кандыдатуру таксама і іншых дзяржаваў. На чале першага лагера стаіць Нямеччына і Англія, а на чале другога — Францыя Польшча, Гішпанія і Бразілія. I гэта газэтная і дыпляматычная перастрэлка закончыцца толькі 8 сакавіка, пасьля надзвычайнага сходу Лігі Народаў.

Перш чымсь разглядаць прычыны гэтай дыпляматычнай і газэтнай кампаніі трэба больш падрабязна высьніць арганізацыю Лігі Народаў.

Галоўнымі органамі Лігі Народаў ёсьць: 1) Рада Лігі, якая складаецца з заўсёдных і часовых сябраў, 2) Агульны сход, сябрамі якога зьяўляюцца прадстаўнікі ўсіх дзяржаваў, якія ўваходзяць у склад Лігі Народаў і 3) Гэнэральны Сэкрэтарыят. Гэнэральны Сэкрэтарыят ёсьць якбы ўправа Лігі, якая працуе безупынна. Ен ня толькі выращае ўсе бягучыя справы, але таксама займаецца апрацоўкай усялякіх праэктаў.

Рада Лігі Народаў складаецца з заўсёдных сябраў і часовых, якія зьменяюцца пэрыядычна. Спачатку статут Лігі прадбачыў 5 заўсёдных сябраў Рады, прадстаўляўшых 5 саюзных вялікіх дзяржаваў: Злучаныя Штаты, Англію, Францыю Японію і Італію Але дзеля таго, што Злучаныя Штаты былі нездаволены тэй формай у якую аканчальна выліўся як вэрсальскі трактат, гэтак сама й Ліга Народаў, дык амэрыканскі Сэнат не ратыфіцыраваў ні трактата, ані статута Лігі Народаў і пятае месца ў Радзе Лігі засталася свабодным. На гэта свабоднае месца якраз і думалі прыняць Нямеччыну, як вялікую дзяржаву, не зьмяняючы істнуючага статута Лігі. Гэта абяцанка была зроблена Нямеччыне Радай Лігі яшчэ ў сьнежні 1924 г. А што датычыцца часовых сябраў Рады Лігі, дык статут дае агульнаму сходу поўную свабоду у вызначэньні ліку гэтых сябраў

Першы агульны сход у 1920 г. вызначыў лік часовых сябраў — 4. У 1922 г. агульны сход павялічыў гэты лік да 6. Цяпер часовымі сябрамі Рады Лігі ёсьць: Бэльгія, Бразілія, Гішпанія, Швэцыя, Уругвай і Чэха Славакія.

Амаль што ня ўсе справы ў Радзе Лігі выращаюцца аднагалосна, а на агульным сходзе Лігі большасьцю галасоў. Галоўную ролю ў Лізе Народаў маюць Англія і Францыя, якія маюць сваіх прыхільнікаў. Наагул у Лізе ёсьць гэткія блёкі: 1) Англія са сваімі калёніямі мае 7 галасоў, 2) Паўдзённа-Амэрыканскі блёк 18 галасоў, 3) Францускі блёк з Малай Антантай і Польшчай — 7 галасоў, 4) Італія і лацінскія эўрапэйскія дзяржавы — 3 галасы, 5) блёк нэйтральных дзяржаваў, са значным уплывам немцаў — 5 галасоў, 6) балканскія дзяржавы—4 галасы і 7) Азіяцкія дзяржавы апрача Японіі — 3 галасы.

Вялікія дзяржавы, асабліва Англія, зацікаўлены ў тым, каб захаваць ранейшы характар Рады Лігі з тым, каб заўсёды яе сябрамі былі прадстаўнікі толькі вялікіх дзяржаваў. Дзеля гэтага Англія згаджаецца прыняць Нямеччыну ў лік заўсёдных сябраў Рады Лігі, тым болей, што спадзяецца на яе падтрыманьне і рашуча выступае проці павялічэньня ліку заўсёдных сябраў Рады, як гэтага хоча Францыя і Польшча. На гэтым грунце і пачалося цяпер заўзятае змаганьне між Нямеччынай і Англіяй з аднаго боку, Францыяй і Польшчай з другога, а Гішпаніяй, Бразіліяй і Швэцыяй — з трэцяга.

Справа ў тым, што Нямеччына амаль таго не яўна імкнецца да зьмены сваіх граніцаў. Дзеля таго, што пакуль што немагчыма дабіцца пры помачы аружжа, дык яна ўхапілася за хітрыкі. Яна пастанавіла спачатку пагадзіцца з Англіяй і Францыяй, абяцаўшы гарантыраваць бясьпеку іх граніцаў і гэткім чынам дабіцца зьмены ўсходніх граніцаў з Польшчай. Гэткую мэту яна мела пры падпісаньні Лёкарнскага дагавора. Але Францыя, Польшча і Чэха Славакія ў свой час крыху паралізавалі гэты плян тым што прымусілі Нямеччыну падпісаць таксама й арбітражны дагавор з Польшчай і Чэха-Славакіяй. А пасьля Францыя сваей чаргой падпісала арбітражны дагавор з Польшчай і Чэха-Славакіяй, абяцаўшы гарантыраваць іхнія граніцы Гэткім чынам лёкарнскі дагавор ня даў немцам таго, чаго яны ад яго спадзяваліся. Але лёкарнскі дагавор здабывае толькі поўнае значэньне

